



Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№14 (167), ВЕРАСЕНЬ 2013 ГОДА


**Цытата нумара:**

**У дэмакратыях трэба мілаваць заможных грамадзян і не караць падзелам не толькі іх маёмасць, але і прыбыткі**

***Арыстоцель***

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ПАЛОВА ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ ЗАСТАНЕЦЦА БЕЗ ПРАЦЫ

**"Дажынкі -2014" акрамя вырашэння пытання па дабраўпарадкаванню Гарадка зробяць беспрацоўнымі больш паловы прыватных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на мясцовым рынку**

Па рашэнню мясцовых уладаў аб **ліквідацыі рынка** ў Гарадку, якое было агучана яшчэ ў сярэдзіне ліпеня, больш паловы прыватнікаў з Гарадоцкага рынку **застанецца без працы**.

Яшчэ да прыняцця рашэння аб правядзенні Дажынак у Гарадку першы намеснік старшыні Гарадоцкага райвыканкама **Уладзімір Кавалёў** (*зняты з пасады ў верасні за злоўжываннеслужбовымстановішчам*) абвясціў, што рынак на працягу двух тыдняў будзе перанесены ў мікрараён **вул. Спартыўная**, каля стадыёна Гарадоцкага агратэхнічнага каледжу. А на яго месцы будзе пабудаваны гандлёвы цэнтр, у якім размясцяцца крамы райспажыўсаюза і будзе 40 месцаў для прыватнага гандлю.

Гэтая сустрэча прайшла на эмоцыях і выклікала вялікае незадавальненне прадпрымальнікаў. Сапраўды каму хочацца страчваць працу, бо на рынку працуе **94 прыватніка, а месцаў будзе толькі 40**. Жарсцяў дадала і пазіцыя кіраўніцтва Гарадоцкага райспажыўсаюза ў духу "драпежнага" капіталізму: "*Хутчэй пішыце заявы на месцы ў гандлёвы цэнтр, бо колькасць месцаў у ім абмежавана*".

Але высокія кошты месца ў势 плануемым цэнтры – 6 тысяч у.а., а таксама павышаная арэндная плата і абмежаваная колькасць месцаў вымусіла большасць прадпрымальнікаў звяртацца ў віцебскія інстанцыі.

Пры агучваемай дзяржаўнай палітыкі актыўнай падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу у малых гарадах ніхто ў райвыканкаме і аблвыканкаме ніяк не жадае даць адказ на пытанне: "*А што рабіць 54 прадпрымальнікам і больш 200 членам іх сем'ям, калі будуць ліквідаваны іх працоўныя месцы?*".

Высокія чыноўнікі з гарадоцкіх і віцебскіх кабінетаў пакідаюць без адказу гэтае пытанне. Канешне, ліквідацыя 54 прыватнікаў выгадна **Гарадоцкаму райспажыўсаюзу**, бо менш канкурэнцыі. Але ці будзе гэта выгадна спажыўцам, калі гарадоцкія кошты **яшчэ больш будуць абганяць кошты з абласнога цэнтра**, бо у іх трэба закладваць большую арэнду і першапачатковы ўнёсак?

Між тым справа па ліквідацыі большасці прыватнікаў у Гарадку рушыцца сваёй хадой. Праект гандлёвага цэнтра распрацоўваецца толькі пад 40 гандлёвых месцаў. **Гарадоцкі райвыканкам** не прапаноўвае ніводнага месца, дзе маглі бы паставіць свае стацыянарныя крамы 54 прадпрымальніка. Замест дыялога гарадоцкія прыватнікі атрымліваюць **толькі маналог чыноўнікаў у выглядзе адпісак**.

Ды і часовае месца для прыватнікаў, куды **Гарадоцкі райвыканкам яшчэ ў ліпені** накіроўваваў прадпрымальнікаў, абсталявана толькі воднай калонкай. Але гэта тэма асобнай гаворкі.

**Леанід Гаравы**



ЗЛОЎЖЫВАННЕ

## ПЕРШЫ НАМЕСНІК РАЗВІТАЎСЯ З ПАСАДАЙ

**Па неафіцыйнай інфармацыі 6 верасня стала апошнім працоўным днём Уладзімера Кавалёва, першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама, начальніка ўпраўлення райсельгаспрода, супраць якога Следчым камітэтам узбуджана крымінальная справа.**

Нагадаем, што **па інфармацыі рэспубліканскіх СМІ** супраць першага намесніка ўзбуджана справа па **ч.3 арт.210 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў буйным памеры)**. Па гэтаму артыкулу прыдугледжана пакаранне ў якасьці пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю.

Пра гэта ўпершыню было заяўлена напрыканцы сакавіка ў інфармацыі Белта. Потым 26 чэрвеня пра гэта пісала **"Звязда"**, кажучы што справа ўзбуджана супраць былога першага намесніка старшыні Гарадоцкага райвыканкама. А калі кіраўнік краіны А. Лукашэнка правёў "антыкарупцыйную" нараду, то пра гэта нагадаў і тэлевізійны **канал АНТ** ў нядзельных Контурах.

Але Уладзімір Кавалёў працягваў працаваць на сваёй пасадзе да самага апошняга часу. Пры гэтым быў ганаровым гасцём на жнівеньскай нарадзе педагогаў раёна і ганарыўся раняшняй сустрэчай з "губернатарам".

Толькі зоркі размясціліся не на яго карысць. І вось па неафіцыйнай інфармацыі першы намеснік Васіля Муранкова вызвалены не па ўласнаму жаданню, а **за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі**. А гэта, як кажуць, прамы шлях да судовага разгляду крымінальнай справы.

Нагадаем, што раней **Уладзімер Кавалёў** працаваў на Аршаншчыне, дзе было апошняе працоўнае месца сёняшняга старшыні Гарадоцкага райвыканкама **Васіля Муранкова**. І гэта вызваленне ад пасады першага намесніка мусіць не лепшым чынам паўплывае і на лёс самаго старшыні.

**7 верасня. Леанід Гаравы**

ПРАБЛЕМА ЭКАЛОГІІ

## ГОРАД БЕЗ АЎТАМЫЙКІ

**Статус Гарадка, як горада рэспубліканскіх Дажынак, абавязвае мясцовыя ўлады вырашыць даўно пераспелую праблему адсутнасці аўтамыйкі ў райцэнтры.**

Сярод гарадоў, якія ужо прымалі рэспубліканскае свята Дажынкі, Гарадок на сёняшні час з'яўляецца **адзіным горадам, дзе няма аўтамыйкі для аўтааматараў**. У час агульнай аўтамабілізацыі гэта выглядае дзікавата, але гэта так.

Уладальнікі прыстыжных аўто вырашаюць **дадзенную праблему ў Віцебску**, дзе аўтамыек хапае. Аўтааматары простых аўто мыюць свае машыны самастойна і па рознаму. Сярод аўтааматараў хапае тых, хто мые сваю машыну на прыдамавых тэрыторыях, парушаючы экалагічнае заканадаўства. Наяўнасць вялікай колькасці рэк і азёр таксама спакушае аўтааматараў мыць машыны каля вадаёмаў таксама парушаючы заканадаўства. Бо бліжэй 30 м наогул нельга набліжацца на аўтамабілях да воднага аб'екта.

Трэба адзначыць, што каля пяці гадоў таму ў Гарадку **была спроба адкрыць аўтамыйку**. Тады прадпрымальнік здолеў прайсці ўсе шматлікія ўзгадненні і адкрыў аўтамыйку на тэрыторыі былога рамонтнага завода з боку райгаза. Але гэты бізнес праіснаваў у Гарадку нядоўга і ўжо больш двух гадоў, як **аўтамыйка спыніла сваю працу**.

З гэтага часу дадзеная бізнес ніша ў Гарадку нікім не занята. Ніводнае прадпрыемства Гарадка, якое мае вялікія аўтапаркі, не прапануе аўтаматарам паслугі па мыйкі аўто. І гэта пры тым, што з іх патрабуюць прадстаўлення разнастайных паслугаў насельніцтву.

Ці сустрэне **Гарадок Дажынкі-2014** сумнай рэальнасцю -- адсутнасцю месца для мыйкі машын аўтааматараў выраша бліжайшы год. Але пры невырашэнні дадзенай праблемы гэта будзе вялікі мінус уладам Гарадка, якія пагадзіліся, каб паслуг па мыйцы аўто ў Гарадку не было.

**Л. Антонаў**

МАРТЫРАЛОГ ГАРАДОЧЧЫНЫ

## ЗНАЙДЗІ СВАЯКОЎ!

**На нашым сайце з'явіўся новы раздзел "Картатэка Сталіна", у якім змешчаны спісы рэпрасаваных на Гарадоччыне пад час сталінскіх рэпрэсій 20-х-40-х гадоў мінулага стагоддзя.**

Напачатку года на **Радыё Свабода** паводле ініцыятывы **Сяргея Дубаўца** на працягу больш двух месяцаў друкаваліся спісы рэпрэсаваных грамадзян Беларусі пераважна з усходняй часткі краіны. Аб гэтай падзеі мы паведамлялі ў свой час на сайце і ў газеце.

Тады я адзначаў : "*У "Картатэцы Сталіна", што датычыцца нашага рэгіёна, змяшчаюцца імёны рэпрэсаваных пераважна з Гарадоцкага раёна ў межах 30-х гадоў мінулага стагоддзя, а таксама з тэрыторыі Мехаўскага раёна, г. Гарадка і зусім мала з Езярышчанскага, Межанскага раёнаў, якія існавалі на пачатку бальшавіцкай гісторыі.*

*Вывучэнне гэтай "Картатэкі" значная праца для краязнаўцаў, для неабыякавых грамадзян, а таксама магчымасць для сёняшняга пакалення беларусаў знайсці сваіх рэпрэсаваных Дзядоў. Завітвайце на сайт Радыё Свабода па гэтай спасылцы: www.svaboda.org/content/article/24812245.html і шукайце сваіх.*"

Неабыякавыя грамадзяне нашага раёна адабралі з больш 70 тысяч прозвішчаў рэпрэсаваных тыя, якія маюць дачыненне да нашага края: нарадзіліся тут, або былі рэпрэсаваны ў нашых месцах.

Гэтыя прозвішчы сабраны ў файлах адпаведна тэрытарыяльных адзінак, дзе адбываліся рэпрэсіі ў сталінскія часы: **Гарадок, Гарадоцкі раён, Мехаўскі раён, Межанскі, Езярышчанскі**. Чытачы маюць магчымасць прагледзіць гэтыя спісы і пашукаць у іх сваякоў.

Трэба адзначыць, што гэтыя спісы значна шырэйшыя, чым у кнізе "Памяць" Гарадоцкага раёна, часткова з якімі **"Картатэка Сталіна"** перакрыжоўваецца. Ды і ў "Картатэцы" у большасці выпадкаў прыводзяцца біяграфічныя даныя, а таксама час арышту і час вынясення прысуду, а таксама ўказваецца дакладная дата рэабілітацыя грамадзян і орган, які гэта зрабіў.

Будзем удзячны, калі вы паведаміце аб сваяках, якіх вы адшукаеце ў гэтых спісах. Ушанаванне памяці рэпрэсаваных толькі пачалося і будзе добра, калі да гэтай працы далучыцца, як мага болей грамадзян. Пішыце нам на мэйл: 250318@list.ru.

**Леанід Гаравы**

ТАКАЯ РЭКАНСТРУКЦЫЯ

# ЗАВЯРШЫЦЬ РЭКАНСТРУКЦЫЮ З БЕЛЫМІ МУХАМІ?

**У Гарадку спынілася рэканструкцыя вайсковых могілак і цэнтральнай плошчы, якая раней называлася плошчай Леніна**

Мы ужо пісалі пра **галоўную будоўлю 2013 года ў Гарадку** – рэканструкцыю вайсковых могілак і цэнтральнай плошчы горада.

Нагадаем, што напрыканцы чэрвеня пачаўся дэмантаж могілак, а потым і плошчы Леніна. За месяц мясцовыя камунальнікі **дэмантавалі помнік Леніну, знялі асфальтавае пакрыццё з плошчы і плітку з могілак, а таксама агароджу вакол могілак**.

І на пачатку жніўня актыўная праца па рэканструкцыі могілакі плошчы спынілася. Камунальнікі правялі **яшчэ бетонныя працы** па перыметру агароджы могілак, а таксама усталявалі пастамент для помніка правадыру кастрычніцкага пераварота каля Дзіцячай школы мастацтваў, дзе раней месціўся Гарадоцкі райкам КПБ.

На самой жа плошчы **ніякай працы не вядзецца ўжо больш месяца**. Па чутках прычына банальная – чакаюць завяршэння вырабу **праектнай дакументацыі дадзенай рэканструкцыі**, а таксама вызначэння падрадчыка для выканання працы. Адны грамадзяне мяркуюць, што самую прыбытковую працу па рэканструкцыі плошчы будзе выконваць якая-небудзь аршанская арганізацыя. Другія мяркуюць, што можа быць іншы падрадчык у святле апошніх зменаў у кіраўніцтве райвыканкама.

Але для падаткаплацельшчыкаў і жыхароў Гарадка істотна, каб выкарыстанне **6-8 мільярдаў рублёў** на рэканструкцыю могілак і плошчы прайшло якасна і эфектыўна. Толькі спыненне рэканструкцыі вядзе да таго, што працы будуць весціся і пры наступленні халадоў, а часам і ў аўральным парадку.

Безумоўна рэканструкцыя могілак і плошчы павінна завяршыцца да 70-й гадавіны вызвалення Гарадка – **да 24 снежня**. Толькі як тут не ўзгадаць заданне старшыні Віцебскага аблвыканкама **Аляксандра Косінца** дадзеная мясцоваму кіраўніцтву яшчэ напрыканцы мінулага года, каб **асноўныя працы ў Гарадку** па падрыхтоўцы да Дажынак былі б завершаны да снежня?

Увесь жа курьёз сітуацыі ў тым, што гэтыя працы па сутнасці і не распачыналіся. Ды і само правядзенне рэспубліканскіх Дажынак застаецца пад пытаннем.

**Леанід Гаравы**

ЗДАРЭННЕ

# "ЁН ШПІЁНІЎ, ЗБІРАЎШЫ НАШЫ БРУСНІЦЫ!"

**Жыхар Віцебска Аляксандр Г.**, адправіўшыся ў жніўні ў **Гарадоцкі раён** пазбіраць брусніц і паздымаць жыхароў лесу, трапіў у сапраўдную **шпіёнскую гісторыю**.

Як аказалася, галоўнай памылкай Аляксандра стала тое, што ў лес па брусніцы ён адправіўся каля станцыі Прудок, недалёка ад якой, як вядома, размешчана **вайсковая часць 94017**. Пад гэтым нумарам хаваецца 2631 - я авіяцыйная база захоўвання ракетнага ўзбраення і боепрыпасаў, пра што можна даведацца, напрыклад, на сайце «Суперлато».

Аказалася , што брусніца ў ваколіцах базы не сама па сабе, а чыя-та. Гэта Аляксандру даходліва патлумачылі дзве супрацоўніцы часткі, на чыю ягаду па неспрактыкаванасці пакваліўся наш герой . Акрамя таго яны заявілі , што Аляксандр увараўся ў ахоўную 50-метровую зону, хоць да плота **часткі было метраў 100**, і ніякіх пазначэнняў ён не бачыў.

Набраўшы паўвядра брусніцы Аляксандр вырашыў пакінуць жанчын з іх ягадай і забароненай зонай і стаў выдаляцца ў лес, але не тут-то было - на яго **пошукі адправілася цэлае аддзяленне ваеннаслужачых са службовым сабакам**. Прымусіўшы верагоднага шпіёна дайсці да прахадной базы ваенныя выклікалі сюды міліцыю.

Злоўленага **"Джэймса Бонда"**, які умела маскіраваўся пад звычайнага беларускага ягадніка і аматара фотапалявання, даставілі ў Гарадоцкі РАУС. Гэта падзея выклікала ў праваахоўнікаў такі ажыятаж, як быццам у іх раёне прызямліўся пілот збітага U -2 -- Фрэнсіс Пауэрс. З Віцебска нават выклікалі **маёра КДБ**.

Нажаль, ператрусзатрыманага нічога праваахоўнікам не даў, хоць у пратакол ўнеслі нават шкарпэткі. У сабранай брусніцах не знайшлося ні авіябомбы, ні ракеты паветра-паветра , якія можна было прадаць заходнім спецслужбам. Але заставаўся **фотаапарат** - бо нават юнаму сяржанту зразумела, што фотаапарат з тэлеаб'ектывам у лесе патрэбен выключна для шпіянажу і падрыву абараназдольнасці Радзімы.

Зрэшты, і тут гарадоцкіх міліцыянтаў разам з чэкістам з паўночнай сталіцы Беларусі чакала расчараванне - уключанае японскае цуда сучасных лічбавых тэхналогій шпіянажу на чыстай рускай мове напісала, што знятых фатаграфій няма. Вядома беларускія вартавыя парадку не лыкам шытыя і западозрылі, што шпіёнская тэхніка здымае ў схаваныя файлы. Флэшкарты вынялі і ўставілі ў іншы апарат, напэўна беларускай вытворчасці, раз даверу яму было больш. Аднак і на ім нічога ўбачыць не ўдалося.

Пасля гэтага Аляксандра Г. адпусцілі і нават падвезлі на аўтавакзал, дзе ён паспеў на апошні аўтобус. А то мог **дапамагчы мясцоваму бюджэту** пераначаваўшы ў гасцініцы або ІЧУ.

**Сяржук Серабро**
**"Народныя навіны Віцебска"**

ПАДМАН

# УСЁ ДОБРА НА ПАПЕРЫ

**Гарадоцкая пракуратура ўстанавіла, што прадпрыемствы Гарадоччыны ў масавым парадку не прадстаўляюць дакладнай інфармацыі аб запазычанасці выплат па заробках.**

Паводле інфармацыі **намесніка пракурора Гарадоцкага раёна Максіма Зіновіка** (gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vlast/prokuratura/news_prokur) у Гарадоцкім раёне на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу дапускаюцца парушэнні заканадаўства аб неабходнасці прадстаўлення дакладных даных аб запазычанасці па выплаце заработнай платы работнікам органам статыстыкі.

Гарадоцкая пракуратура пры разглядзе звароту **Казловай А.С.** пра нявыплату ёй ААТ "Гарадоцкі льнозавод" заработнай платы за люты 2013 г. ўстанавіла парушэнне заканадаўства. Службовыя асобамі дадзенага прадпрыемства, адказныя за складанне і прадстаўленне дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці ў аддзел статыстыкі Гарадоцкага раёна, своечасова не была прадстаўлена дакладная дзяржаўная статыстычная справаздачнасць **формы 12-т (запазычанасць)**. Адказныя работнікі не паведамілі аб наяўнасці па стану на 5 ліпеня 2013 года ў ААТ «Гарадоцкі льнозавод» запазычанасці па выплаце заработнай платы Казловай А.С. за люты 2013 г. у памеры **182000 рублёў**.

Тыя ж патрабаванні заканадаўства парушаны службовымі асобамі **ААТ «Гарадоцкі льнозавод»**, у выніку непрадстаўлення дакладнай дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці 12-т (запазычанасць) аб наяўнасці па стане на 3 мая 2013 г..

На гэты час у ААТ "Гарадоцкі льнозавод" запазычанасць па выплаце заработнай платы работнікам за сакавік 2013 г. склала **538.900.000 рублёў**.

У сувязі з дапушчанымі парушэннямі дырэктар ААТ "Гарадоцкі льнозавод" Варанко У.К. прыцягнуты да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасці, на яго накладзены штраф у памеры 20 базавых велічынь на суму 2000000 рублёў.

Аналагічныя парушэнні выяўляліся і на іншых прадпрыемствах АПК раёна.

Варта адзначыць, што згодна з **ч. 1 і ч. 2 арт. 23.18 КаАП** Рэспублікі Беларусь прадстаўленне службовай асобай і (або) іншай упаўнаважанай асобай, адказнай за складанне і прадстаўленне даных дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці, або індывідуальным прадпрымальнікам скажоных даных дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці, несвоечасовае прадстаўленне або непрадстаўленне такой справаздачнасці органам дзяржаўнай статыстыкі, калі ў гэтых дзеяннях няма складу злачынства , цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад дваццаці да ста базавых велічынь (**ад 2.000.000 рублёў да 10 000 000 рублёў**). Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такія ж парушэнні, - штраф у памеры ад ста да двухсот базавых велічынь (**ад 10 000 000 рублёў да 20 000 000 рублёў**).

Варта адзначыць, што з 1 кастрычніка памер базавай велічыні складзе 130 000 рублёў і гэтыя **штрафы вырастуць на 30%.**

**Л. Антонаў**

МАЛЫ БІЗНЕС

# 29 ВЕРАСНЯ АПОШНІ ДЗЕНЬ ПРАЦЫ РЫНКА Ў ГАРАДКУ

**Старшыня Гарадоцкага райспажыўсаюза Наталля Палюховіч самаўпраўна ігнаруе ўказанне аблвыканкама аб часовым месцы знаходжання рынка і закрывае рынак з 1 кастрычніка**

24 верасня прадпрымальнікі Гарадоцкага рынка атрымалі паведамленне ад Наталлі Палюховіч аб тым, што дамова арэнды, якая заканчваецца 30 верасня, з імі не працягваецца. Адпаведна і рынак спыняе існаванне **з 1 кастрычніка**. Прадпрымальнікам прапануецца вызваліць месцы на рынку самім або з дапамогай райспажыўсаюза, аплаціўшы гэтую працу. Пры гэтым у паведамленні **нічога не гаворыцца аб перамяшчэнні на часовае месца** ў мікрараёне вул. Спартыўная.

Дадзены самаўпраўны крок старшыні Гарадоцкага райспажыўсаюза ідзе **супраць пазіцыі і Гарадоцкага райвыканкама, і Віцебскага аблвыканкама**. Адказныя супрацоўнікі выканкамаў неаднаразова запэўнівалі прадпрымальнікаў, што пад час будаўніцтва гандлёвага цэнтра, яны могуць размясціцца на пляцоўцы з камунікацыямі каля стадыёна агратэхнічнага коледжа.

Але справа ў тым, што ніякіх камунікацыі ніхто на гэтай пляцоўцы, за выключэннем воднай калонкі, не рыхтаваў. Часовае месца ніякім чынам не абмежавана -- там няма ні размяшчэння ралетаў, ні плота вакол часовага месца. Таксама няма ніякай элктрычнасці, каб маглі працаваць прадуктовыя ралеты з лядоўнямі. Нічога гэтага няма на месцы, якое вызначана Гарадоцкім райвыканкамам, і пра якое чыноўнікі Віцебскага аблвыканкама казалі, што там павінны быць камунікацыі.

Фактычна больш трох месяцаў **Гарадоцкі райспажыўсаюз** нічога не зрабіў для забеспячэння часовага месца рынка камунікацыямі. А зараз адным паведамленнем пазбаўляе працы 94 прадпрымальніка.

Як адрэагуе на гэта самаўпраўства старшыня Гарадоцкага райвыканкама або Віцебскі аблвыканкам пакажа час. Або так і трэба пачынаць падрыхтоўку да **"Дажынак – 2014"** – пазбаўляць працы амаль сотню прадпрымальнікаў у Гарадку?

**Леанід Гаравы**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварыецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

КАЛІЙНЫ СКАНДАЛ

# БАЎМГЕРТНЕР , НА ВЫХАД!

**Гендырэктар « Уралкалія », падобна , вось-вось пакіне менскую « амерыканку » - сумна вядомую турму КДБ.**

На нарадзе 19 верасня **Аляксандр Лукашэнка** заявіў: *«Калі расійскія следчыя будуць зацікаўлены ў экстрадыцыі расейскага грамадзяніна Баўмгертнера, які намі затрыманы, то я тут не бачу асаблівых перашкод. Мы за яго абсалютна не трымаемся»*.

Гэта «не трымаемся» гучыць дзіўна нязмушана пасля таго, як расійскага топ - мэнэджэра, вераломна арыштаванага ў Беларусі 26 жніўня, толькі лянівы не назваў закладнікам калійнага канфлікту.

**Маўр зрабіў сваю справу**

Выснова прасты: маўр зрабіў сваю справу , маўр можа выходзіць . Інакш кажучы, Лукашэнка, які рызыкаваў , пайшоўшы на дзёрзкі арышт важнай птушкі , па вялікім рахунку задаволены прамежкавым вынікам.

Прычым ўздым рэйтынгу беларускага прэзідэнта за кошт раскошна пададзенай прапагандай святой вайны з праклятымі алігархамі - толькі пабочны эфект. Галоўнае ж тое, што абкладзены чырвонымі сцяжкамі **Сулейман Керымаў**, асноўны саўладальнік «Уралкалія», мабыць, ужо сто разоў пашкадаваў, што пайшоў у ліпені на бліцкрыг, раптам разарваўшы картэльнае пагадненне з беларусамі, і цяпер ад граху далей гатовы прадаць сваю долю.

Гэта дае беларускаму боку шанец аднавіць сумесныя продажу стратэгічнага прадукту або , па меншай меры , зноў выйсці на ўзгадненне цэнавай палітыкі.

У актыве Лукашэнку і тое, што Крэмль праявіў ў гэтай гісторыі дзіўную стрыманасць , не палез у бутэльку ( тыпу « нашых б'юць» ), а наадварот, даў адмашку на прыезд у Мінск цэлай чарады «асоб, набліжаных да імператара».

Было ўражанне, што людзі , блізкія да Крамля , ці ледзь не занялі ў прыёмнай Лукашэнкі чаргу, каб парадаваць падарункамі. Кіраўнік « Раснафты » Ігар Сечын паабяцаў касьцьмі легчы, але забяспечыць беларускія НПЗ сыравінай. Кіраўнік «Газпрома» Аляксей Мілер вёў гаворку аб пракладцы другой галіны Ямала - Еўропы і іншых укладаннях. А Герман Грэф ад імя Ашчадбанка Расіі прывёз 800 мільёнаў даляраў інвестыцый для БелАЗа і Мазырскага НПЗ. Плюс намякнуў , што магчыма рэфінансаванне ранейшага мільярднага крэдыту «Беларуськалію».

У пачатку калійнай вайны гучалі галасы, што ўжо зараз-то Лукашэнка даскакаўся, Масква размажет яго па сцэнцы. І раптам - атракцыён нечуванай шчодрасці. З чаго б гэта?

**Керымаў прамахнуўся**

Падобна на тое, «Уралкалій» не ўзгадніў сваю новую стратэгію продажаў на сусветным рынку (працэй кажучы, выйгрыш за кошт абвалу цэн) з адміністрацыяй расійскага прэзідэнта, адзначыў у каментары для Naviny.by аналітык BISS (Вільнюс) **Андрэй Елісееў**.

Беларускі бок, паводле яго слоў, па-майстэрску гуляе на супярэчнасьцях паміж расійскімі бізнес- групоўкамі. І ў гэтым канкрэтным выпадку, верагодна, «мела інсайдэрскую інфармацыю, што Крэмль не будзе моцна заступацца за «Уралкалій».

У выніку Акела прамахнуўся: **Керымаў** з трэскам прайграў бліцкрыг. Прычым яго долю ў «Уралкалій», згодна з слівы, можа купіць хто-небудзь з людзей Пуціна - напрыклад, Уладзімір Коган. А свежыя заявы Лукашэнкі аб тым, што «Уралкалій» фактычна банкрут, могуць збіць кошт пакета акцый, адзначаюць аглядальнікі. Гэта значыць, зноў жа, аказаць паслугу пуцінскім.

Іншая справа, што склеіць разбіты гаршчок Беларускай калійнай кампаніі нават пасля змены ўладальніка «Уралкалія» будзе няпроста. І потым, сусветны рынак ужо адрэагаваў, на сёння ён практычна паралізаваны. За жнівень ўдалося паставіць на экспарт толькі 44 тысячы тон прадукцыі «Беларуськалія» - гэта дзве чайных лыжкі на фоне ранейшых продажаў.

Так што дзірку ў беларускіх фінансах гэтым багаццем айчынных нетраў ў бліжэйшай перспектыве не задзелаўся. Застаецца верны спосаб - раскручваць Крэмль на прэферэнцыі па палітычных меркаваннях. І ў гэтым плане для Менска таксама складаецца па-свойму спрыяльная кан'юнктура. Той выпадак, калі каму вайна, а каму маці родна.

Маецца на ўвазе канфлікт Масквы з Кіевам. Украіна, падобна, канчаткова адрываецца, падпісанне пагаднення аб асацыяцыі з ЕС на мазі, у сераду яго ўхваліў урад краіны. Надзеі Масквы зацягнуць «славянскую сястру» ў Мытны саюз ідуць прахам. Арменія ў гэтым сэнсе для замены відавочна нераўнацэнна. Такім чынам, каб еўразійскі праект Пуціна не сарваўся, крытычна важная лаяльнасць Лукашэнка.

**Менск возьме даніну за ўдзел у Еўразійскім саюзе**

У тым, што Уладзімір Пуцін не стаў сварыцца з беларускім калегам з-за калійнай справы, *«геапалітычны фактар мае вялікае значэнне»*, **лічыць беларускі палітолаг Алесь Лагвінец**. Калі мець на ўвазе непажаданы для расейскага кіраўніцтва еўрапейскі трэнд Украіны, то «Крамлю складана было б весці эканамічную вайну на два заходнія фронту», адзначыў Лагвінец у каментары для Naviny.by.

Паводле яго слоў, Лукашэнка спрабуе працягнуць гандаль, падымаючы цану свайго ўдзелу ў Еўразійскім саюзе. *«Не думаю, каб Крэмль пайшоў на вялікія саступкі інстытуцыйнага плана. Хутчэй за ўсё, гаворка будзе ісці аб кароткатэрміновых выгодах для Мінска ў выглядзе павелічэння нафтавай квоты, зніжанай цэны на газ, новага крэдыту»*, - прагназуе Лагвінец.

Сапраўды, хоць Сечын у Мінску і запэўніваў, што беларускія НПЗ не апынуцца на падсмоктванні, расійскае Мінэнерга слівамі праз СМІ працягвае палохаць зніжэннем паставак нафты па трубах у чацвёртым квартале. Яшчэ важней пытанне аб

(працяг на стар. 4)

НУ І НУ!..

# ЗАЙМАЛЬНАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

**На Ляхавіцкі льнозавод купілі абсталяванне, якое ніяк не змяшчаецца ў цэхі.**

Аляксандр Якабсон жорстка крытыкаваў кіраўніцтва Белаграсэрвісу і Ляхавіцкага льнозавода за неэфектыўную работу па мадэрнізацыі прадпрыемства.

У рамках кантролю за выкананнем даручэнняў Лукашэнкі па выхаду льняной галіны на эфектыўную працу, старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон азнаёміўся з сітуацыяй на ААТ «Ляхавіцкі льнозавод» і правёў рабочую нараду па дадзенай тэме з удзелам зацікаўленых.

Якабсон жорстка раскрытыкаваў кіраўніцтва прадпрыемства і кіраўніка ААТ «Белаграсэрвіс» Лабушава за нядзольнасць забяспечыць эфектыўную мадэрнізацыю льнозавода.

Высветлілася, што закупленае Белаграсэрвісу для ААТ «Ляхавіцкі льнозавод» абсталяванне не месціцца ў наяўныя цэхі. Не хапае ні даўжыні, ні вышыні будынка.

У выніку паўстала неабходнасць распрацоўкі новага бізнес-плана, які прадугледжвае будаўніцтва дадатковага будынка, што, натуральна , прывядзе да падаражання праекта. На думку спецыялістаў Камітэта дзяржкантролю тэрміны акупнасці новага бізнес-плана настолькі вялікія, што не дазваляюць казаць пра эфектыўнасць яго рэалізацыі.

Непрыемны асадак пакінула і азнаямленне з тэрыторыяй і цэхамі прадпрыемства (бруд звонку і безгаспадарчасць унутры). Шмат пытанняў паўстала да дырэктара льнозавода і па адсутнасці нармальных умоў для працы рабочых.

У ходзе праведзенай нарады Якабсон раскрытыкаваў мясцовыя ўлады, якія не выканалі даручэнне Лукашэнкі па завяршэнні ўборкі лёну да 25 верасня - у аптымальныя тэрміны. У цяперашні час у Брэсцкай вобласці паднята толькі 48 % льнотрасты ад плана вытворчасці. Адсюль і праблемы з якасцю льноваланка. Нават нягледзячы на тое, што характарыстыкі льнотрасты, атрыманай у Брэсцкай вобласці вышэй чым у іншых рэгіёнах краіны, яны не дацягваюць да патрэбных параметраў.

kgk.gov.by




ПАЛІТЫЧНЫЯ ВЯЗНІ

# МІКАЛАЙ АЎТУХОВІЧ У ЗНАК ПРАТЭСТУ ЎСКРЫЎ САБЕ ЖЫВОТ

**Пра гэта са спасылкай на крыніцу ў гродзенскай турме №1 піша «Платформа».**

Два гады запар Мікалаю Аўтуховічу выносяць спагнанні ў той час, калі скончацца пакаранні, накладзеныя раней.

«Платформа» піша, што 4 верасня, калі вязню заставаўся месяц да пагашэння усіх парушэнняў, на яго было накладзена новае спагнанне. Гэта пазбавіла яго магчымасці атрымаць пасылку і перадачу, сустрэцца са сваякамі.

Па непацверджанай інфармацыі, прычынай спагнання стала адсутнасць Аўтуховіча 26 жніўня на сваім спальным месцы пасля адбою.

Па версіі з той жа ананімнай крыніцы, эмацыйная рэакцыя Аўтуховіча на спагнанне тлумачыцца тым, што вязень старанна сыходзіць ад любых парушэнняў: «Яму, як вайскоўцу, не цяжка ўстаць раніцай і своечасова легчы спаць. Ён прызвычаіўся да такога рэжыму. Прызвычаіўся і па паўгода ні з кім не размаўляць, кажучы ў дзень па пары дзяжурных фраз — абы не даваць нагоды да далейшых правакацый».

Калі за Аўтуховічам замацуецца статус злоснага парушальніка, тэрмін яго зняволення можа быць падоўжаны.

Таксама вязню можа быць прызначаны прэвентыўны нагляд пасля вызвалення. Для такіх выпадкаў існуе артыкул 411 Крымінальнага кодэкса — злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі выпраўленчай установы, што выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі.

Мікалай Аўтуховіч — прадпрымальнік з Ваўкавыска, ветэран-«афганец». Упершыню быў арыштаваны ў кастрычніку 2005 года. Абвінавацiўшы ў няўплаце падаткаў, яго асудзілі на тры з паловай гады. Ён быў адным з шасці палітзняволеных, вызваленых у выніку жорсткіх санкцый ЗША і ЕС.

Мікалай Аўтуховіч другі раз быў арыштаваны 8 лютага 2009 г., асуджаны 6 мая 2010 г. Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 месяцаў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму.

Рашэннем суда ад 17 студзеня 2012 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі № 5 у Івацэвічах ў турму № 1 г. Гродна.

РАСІЙСКІЯ СМІ ПРА БЕЛАРУСЬ

# «АРГУМЕНТЫ И ФАКТЫ»: ЛУКАШЭНКІ НЕ СТАНЕ Ў 2015 ГОДЗЕ

**Беларускі кіраўнік паставіў краіну на мяжу эканамічнага абвалу, піша расійскае выданне**

Арышт беларускімі ўладамі гендырэктара расійскай кампаніі **«Уралкалій» Уладзіслава Баўмгертнера** зноў паставіў Беларусь на мяжу эканамічнага абвалу (ужо трэцяга за апошнія 4 гады — услед за абваламі 2009 і 2011 гадоў), а прэзідэнцкі рэйтинг Аляксандра Лукашэнкі — пад пагрозу падзення да новага гістарычнага мінімуму, пасля якога ён ужо не зможа быць выбраным прэзідэнтам у 2015 годзе, **піша Міхаіл Тульскі, прэзідэнт расійскага даследчага цэнтра «Палітычная аналітыка»**.

Прыхільнікі Лукашэнкі часта кажуць пра нібыта «эканамічны цуд» і «інавацыйны цуд», якія прадэманстравала «мадэль Лукашэнкі».

На справе ж цуды дэманструе зусім **не эканоміка Лукашэнкі, а яго фальшывая статыстыка і агрэсіўная прапаганда**.

Зрэшты, «паказчыкі» гэтыя разбіваюцца ў пух і прах пры першым жа супастаўленні з лічбамі вытворчасці ў натуральных велічынях, якія нязменныя пры любых коштах.

Так, лукашэнкаўская статыстыка кажа, што **нібыта ВУП у 2012 годзе** дасягнуў 193% да ўзроўню 1990 года, але галоўны паказчык любой эканомікі — вытворчасць электраэнергіі — зваліўся з 39,5 млрд кВт/г у 1990 годзе да 30,8 млрд кВт/г у 2012 годзе, гэта значыць складае толькі 78% ад узроўню 1990 года.

Прамысловую вытворчасць лукашэнкаўская **статыстыка-эквілібрыстыка** малюе ў 2012 годзе на ўзроўні нібыта 258% да 1990 года. У натуральным жа выражэнні нічога такога і блізка няма: галоўны артыкул беларускага экспарту — перапрацоўка нафты — звалілася з 39,442 млн т у 1990 годзе да 21,667 млн т у 2012 годзе, гэта значыць складае толькі 55% ад узроўню 1990 года.

Беларускага экспартнага тавару № 2 — мінеральных угнаенняў (амаль выключна калійных) — у 1988 годзе выпушчана 6,7 млн т, а ў 2013 годзе чакаецца вытворчасць у лепшым выпадку 5,3 млн т, гэта значыць на ўзроўні 79% ад пікавых савецкіх паказчыкаў.

Такая ж сітуацыя і ў будаўніча-інвестыцыйнай сферы: лукашэнкаўская статыстыка кажа пра нібыта 224% да ўзроўню 1990 года, натуральныя ж паказчыкі дэманструюць зусім іншую сітуацыю: у **1989 годзе пабудавана 5,650 млн м2 жылля, а ў 2012 годзе — 4,487 млн м2 або 79% да ўзроўню 1989 года**.

І калі ў 2009 годзе Аляксандру Рыгоравічу ўдалося такім шляхам не дапусціць падзення свайго электаральнага рэйтынгу, то на мяжы **2010–2011 гадоў атрымалася роўна адваротнае**:

Лукашэнка справакаваў нечакана моцную рэакцыю ў адказ расейскіх уладаў, якія замянілі занадта льготныя 50%-я кошты на газ, нафту і нафтапрадукты менш льготнымі і больш набліжанымі да рынкавых (якія ў пачатку 2011 года да таго ж яшчэ і выраслі).

У выніку таварны дэфіцыт **знешнегандлёвага балансу Беларусі вырас у 1 квартале 2011 года з 1,2 да 3 млрд даляраў** (з якіх 90% прыйшлося на РФ), у Беларусі паўстаў сур'ёзны дэфіцыт валюты, які яшчэ больш вырас пасля крытычных рэпартажаў расейскага ТБ. Вынікам стаў абвал курсу беларускага рубля да даляра ў 3 разы, амаль таксама выраслі і кошты і, адпаведна, збяднела беларускае насельніцтва.

У выніку, у верасні 2011 года рэйтынг Лукашэнкі ўпаў, **па дадзеных НІСЭПД, да 20,5%**, стаўшы самым нізкім за ўсю 17-гадовую гісторыю вымярэння рэйтынгу Лукашэнкі. Пасля гэтага, вядома, Лукашэнка запанікаваў і пагадзіўся прадаць «Белтрансгаз» «злым расейскім алігархам» нават танней таго кошту, які ён да абвалу называў «моцна заніжаным» і «рабаўніцкім».

Пасля таго, як **Расея атрымала «Белтрансгаз»**, яна ў пачатку 2012 года знізіла для Беларусі кошт на нафту на 10%, а на газ — на 28%, рэальная ж зніжка была яшчэ вышэй, так як сусветныя кошты нафты і газ зноў выраслі на 10–20%.

Увогуле, Расея зноў стала прадаваць Беларусі нафту прыкладна на 45%, а газ — на 50% танней сусветных коштаў. Пры гэтым на мяжы 2012–2013 гадоў Расія зноў панізіла кошты на нафту і газ для Беларусі на 3–5%. У выніку гандлёвы баланс з дэфіцытнага стаў прафіцытным, сітуацыя ў эканоміцы стала наладжвацца, зарплаты і пенсіі сталі набліжацца да таго ўзроўню, які быў да абвалу.

Цяпер жа эканоміка Беларусі зноў забарахліла: калі ў 1 паўгоддзі 2012 года ў Беларусі **быў таварны прафіцыт знешняга гандлю** (экспарт перавышаў імпарт) ў 1,9 млрд даляраў, то ў 1 паўгоддзі 2013 года ён змяніўся **таварным дэфіцытам у 1,7 млрд, прычым усё больш нарастаючым**: у 1 квартале імпарт перавышаў экспарт на 0,6 млрд, а ў 2 квартале — ужо на 1,1 млрд. экспарт беларускіх тавараў зваліўся з 25,3 млрд у 1 паўгоддзі мінулага года да 19,2 млрд у 1 паўгоддзі гэтага або на 24%. У гэтай сітуацыі нават хітрая лукашэнкаўская статыстыка вымушаная паказваць спад у прамысловасці ў 6–10% у траўні-ліпені і ВУП на 0,5% у 2 квартале (да тых жа перыядаў мінулага года) — рэальны спад, вядома, яшчэ больш.

У гэты раз, **падобна, паўторыцца варыянт 2011 года**, калі «бяскрыўдная» гульня «ў вайну» прывяла да сур'ёзных эканамічных санкцый з боку Расеі, вынікам якіх стаў абвал у 3 разы як беларускага рубля, так і рэйтынгу Лукашэнкі.

Спачатку млявы канфлікт Лукашэнкі з «Уралкаліем» ужо прывёў да прыкметнага падзення цэнаў на калійныя ўгнаенні, якія з'яўляюцца другім пасля нафтапрадуктаў **артыкулам беларускага экспарту (7%) і даходаў беларускага бюджэту (10%)**: калі ў мінулым годзе беларускія вытворцы прадавалі яго ў далёкае замежжа па 742 даляраў за тону, то ў гэтым годзе — па 638, прычым для кітайцаў зробленая яшчэ вялікая зніжка — да 593 даляраў.

Пасля канфлікту ж Лукашэнкі з «Уралкаліем» аналітыкі загаварылі пра зніжэнне кошту да 270–300 даляраў!

Напрыклад, пакуль Мінфін РФ не адмаўляецца ад прадастаўлення Беларусі чарговага крэдыту ў 440 млн. даляраў, а можа ж і адмовіцца: бо знешняя пазыка Беларусі ужо дасягнула 16 млрд. даляраў і наўрадці краіна ў стане іх аддаць…

Пасля ўсіх «мер уздзеяння» з боку Расеі яшчэ больш павялічыцца дэфіцыт гандлёвага балансу Беларусі, які расце і без таго. А за ім непазбежна рушыць услед і новы абвал беларускага рубля і, як следства, новае збяднене насельніцтва Беларусі, якое прывядзе **да падзення рэйтынгу Лукашэнкі да новага гістарычнага мінімуму ў 10–15%**, пасля якога яму будзе ўжо не падняцца вышэй за 25% да выбараў прэзідэнта 2015 года, а гэта будзе азначаць непазбежнае паражэнне.

*(пачатак на стар. 3)*

нафтавым балансе на будучы год - напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Перад барацьбой за чарговы тэрмін праўлення нязменнаму прэзідэнту быў бы вельмі дарэчы і яшчэ адзін крэдыт па лініі Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС (ці пад любым іншым соусам).

Такім чынам, сёння беларускаму кіраўніцтву зручней за ўсё канвертаваць ў расійскія прэферэнцыі свой удзел у стварэнні Еўразійскай саюза. Не выпадкова гэтую тэму Лукашэнка падняў у чацвер у Менску на тым самым нарадзе, на якім загаварыў аб экстрадыцыі **Уладзіслава Баўмгертнера**: *«З пачатку 2015 года, я ўпэўнены, пачне працаваць новы эканамічны саюз... Гэты калійны скандал ні ў якім выпадку не павінен стаць каменем перапоны у адносінах не толькі паміж дзяржавамі, але і паміж двума прэзідэнтамі».*

***(скарочана)***

**Аляксандр Класкоўскі**
**Белапан**

ВАКОЛ ХАКЕЯ

# ЧАВУСАЎ: РОЗГАЛАС ВАКОЛ МЕНСКАГА ЧЭМПІЯНАТУ ЎЖО ДАЎ ПЛЁН

**Аляксандар Лукашэнка абавязаў застрахаваць страты ў выпадку адмены, байкатаваньня або пераносу тэрмінаў чэмпіянату сьвету па хакеі.**

Ці азначае такое рашэньне, што Лукашэнка на самой справе асьцерагаецца байкоту, ці гэта звычайная бюракратычная працэдура? Ці можна сказаць, што байкот менскага чэмпіянату яшчэ магчымы, і ці прыедуць на яго ўсе асноўныя хакеісты? На гэтыя пытаньні адказвае юрыст і палітоляг **Юры Чавусаў**.

**— Ці кіраўнік Беларусі сапраўды асьцерагаецца байкоту чэмпіянату, ці страхаваньне — гэта звычайная працэдура, якая існуе ва ўсіх краінах?**

— Страхаваньне арганізатарамі буйных міжнародных спартовых спаборніцтваў — упрынцыпе, звычайная рэч. Страхуюцца тыя пагрозы, якія могуць перашкодзіць ці сапсаваць правядзеньне гэтых мерапрыемстваў. А пагрозы вынікаюць з тых рызыкаў, якія ёсьць у наяўнасьці. І выдзяленьне ва ўказе Лукашэнкі сярод рызыкаў менавіта байкатаваньня альбо пераносу азначае, што такая рызыка сапраўды ёсьць.

Я думаю, наўрад ці гэты ўказ зьявіўся ў такой форме па волі самога Лукашэнкі. Я мяркую, маюць месца іміджавыя страты, якія ўжо атрымаў будучы чэмпіянат сьвету. Напэўна, гэты ўказ пакліканы супакоіць камэрцыйных партнэраў, Міжнародную фэдэрацыю хакею, дырэкцыю правядзеньня чэмпіянату. Маўляў, калі нешта здарыцца, то страты будуць кампэнсаваныя і камэрцыйныя партнэры гэтых арганізацый не пацерпяць.

**— Ідэя байкоту абмяркоўваецца даволі доўга, але выглядае, што байкот нядта верагодны. Ці сапраўды байкот яшчэ магчымы, ці наадварот, тэндэнцыя зараз іншая і байкот малаімаверны?**

— Хоць размовы пра магчымы байкот будуць актывізоўвацца і надалей, сама магчымасць пераносу чэмпіянату цяпер мінімальная. Гэта было магчыма аб'явіць за два-тры гады да чэмпіянату. Але калі засталося некалькі месяцаў, калі ўжо стартаваў той сэзон, у які ўпісаны гэты чэмпіянат — то, натуральна, фэдэрацыя хакею — па добрай волі ці нават пад нейкім ціскам — наўрад ці на гэта пойдзе.

Хаця вельмі верагодны не агульны байкот і не байкот з боку асобных зборных — асобныя спартоўцы могуць на знак пратэсту супраць правядзеньня чэмпіянату ў аўтарытарнай краіне заявіць пра свой няўдзел у гэтым чэмпіянаце.

Адзначу й іншы аспэкт гэтай справы. Пратэсты супраць правядзеньня Чэмпіянату сьвету па хакеі ў Беларусі былі заўважаны міжнароднымі спартовымі ўладамі, і сёлета ў траўні на міжнароднай канфэрэнцыі міністраў у межах UNESCO была прынятая дэкларацыя, якая ў тым ліку заклікала арганізатараў спартовых спаборніцтваў пры вызначэньні месца правядзеньня ўлічваць і гуманітарны аспэкт. І гэта першы крок да ўвядзеньня тэмы правоў чалавека ў пералік тых крытэраў, якія вызначаюць месца правядзеньня буйных спартовых спаборніцтваў. Такім чынам, розгалас вакол менскага чэмпіянату ўжо даў плён, які адлюстраваны ў канкрэтных дакумэнтах міжнародных структураў.

**Радыё "Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.09.2013 у 18.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.